# ПРАВА ВЕСНІК АБАРОНЧЫ

ТРАВЕНЬ, **2012**

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



Цэнтр "Вясна" піша гісторыю найноўшага часу — СТАР. 3

Мядзведзева просяць спрыяць вызваленню Алеся Бяляцкага — СТАР. 4


## "Вясна" адзначае 16-ю гадавіну дзейнасці

*16 год таму, пасля брутальных затрыманняў падчас "Чарнобыльскага Шляху", пачыналася праца групы людзей, якая занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі пра затрыманых, а таксама спрабавала аказаць ім матэрыяльную дапамогу. Так узнікла арганізацыя "Вясна-96".*





**Цэнтральным накірункам працы арганізацыі стала дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаванне грамадскасці пра гэтыя рэпрэсіі. Пра гісторыю стварэння Праваабарончага цэнтра "Вясна" яе заснавальнік і нязменны кіраўнік Алесь Бяляцкі распавядае ў інтэрвью да кнігі "Наша Вясна":**

– "Вясна" пачыналася тады, калі цэлую вясну 96-га года ішлі масавыя акцыі, якія адбываліся з розных прычынаў. У красавіку у сувязі з так званай Саюзнай дамовай з Расіяй, якую Лукашэнка збіраўся заключаць з Ельцыным. Перад гэтым адзначалася 15 сакавіка Дзень Канстытуцыі, затым 25 сакавіка - Дзень Волі, калі прайшла вялікая дэманстрацыя па праспекце Незалежнасці да Опернага тэатру і будынку Белтэлерадыёкампаніі на Чырвонай, дзе патрабавалі прамога эфіру, бо тады ўжо былі праблемы з інфармацыяй і яе распаўсюдам. Тады была ўзбуджана крымінальная справа за парушэнне парадку, але яна нічым не скончылася.

А 26 красавіка на плошчы Якуба Коласа сабралася 40-50 тысяч чалавек, якія пайшлі затым па праспекце Незалежнасці да цырка і па вуліцы Багдановіча да Палацу спорта, дзе былі праведзены мітынгі. Падчас гэтай дэманстрацыі міліцыя перакрыла дарогу машынамі, былі выстаўлены кардоны АМАПу, і ўсё гэта суправаджалася жорсткімі сутычкамі з людзьмі. У той дзень было арыштавана больш за 200 чалавек, узбуджана чарговая крымінальная справа. У СІЗА апынуліся Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык як заяўляльнікі акцыі. Востра ўзнікла пытанне тэрміновай дапамогі ў зборы інфармацыі і давядзенні яе да сваякоў затрыманых, бо паніка тады была нават большая, чым мы бачылі ў 2006-м і ў 2010-м гадах падчас падобных масавых арыштаў. Проста тады гэта было ўпершыню. Я хачу падкрэсліць, што да гэтага акцыі, за выключэннем "Дзядоў" 1988 года, у нас фактычна не разганяліся. Так, былі затрыманні, быў нейкі млявы пераслед, але так масава, нахабна і жорстка, як гэта адбылося ў красавіку 96-га года такога не было. Мне падаецца, менавіта тады Лукашэнка вырашыў жорсткасцю сілавых дзеянняў спыніць масавыя акцыі.

У гэтай сітуацыі ўзнікла група людзей, якая занялася зборам і распаўсюдам інфармацыі, а таксама матэрыяльнай дапамогай: мы шукалі грошы, прадукты харчавання для тых, хто сядзеў па крымінальнай справе і на "сутках". У прыватнасці, адзін чалавек перадаў нам харчы і мы потым іх раздавалі сем'ям рэпрэсаваных. Гэта было не так шмат, але чым маглі… Гэтая група працавала прыкладна месяц.

Цэнтральным накірункам нашай працы стала дапамога ахвярам палітычных рэпрэсій і інфармаванне грамадскасці пра гэтыя рэпрэсіі. Усё рабілася на абсалютна добраахвотных пачатках. У той час я працаваў дырэктарам літаратурнага музея Максіма Багдановіча, быў сакратаром Управы БНФ. Улічваючы, што тады Фронт быў асноўнай актыўнай вулічнай сілай, найбольш ахвяраў было якраз сярод сяброў БНФ. Паступова мы пашыралі сваю працу і пачалі шукаць кантакты ў рэгіёнах, таму што рэпрэсіі разгарнуліся па ўсёй Беларусі. Нам патрэбны былі людзі, гатовыя працаваць у праваабарончым накірунку па ўсёй краіне, і на працягу 97-га года мы фактычна адбудавалі рэспубліканскую структуру. 23 лютага 1998 года мы зарэгістравалі "Вясну-96" як мінскую гарадскую арганізацыю і аднначасова рыхтавалі дакументы для стварэння нацыянальнай. У 1999 годзе "Вясна" была зарэгістравана як арганізацыя рэспубліканская і ў такім статусе існавала да 2003 года, калі рашэннем Мінюста і Вярхоўнага суда яна была зачынена за ўдзел у назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі 2001 года. З тых часоў працуем без рэгістрацыі".

Сваё 16-годдзе арганізацыя адзначае выхадам кнігі "Наша Вясна" - гэта гісторыя ў асобах. Ініцыятарам выдання з'яўляецца Алесь Бяляцкі.

Як адзначаецца ў прадмове да выдання, "Усё, што не пакладзена на паперу, не зафіксавана лічы, што яго і не было", кажа ён. А на прыкладзе "Вясны" можна адсочваць важныя працэсы найноўшай гісторыі Беларусі: барацьбу за правы чалавека і дэмакратычныя каштоўнасці, супрацьстаянне асобы і аўтарытарызму, станаўленне і развіццё праваабарончага руху. Гэтая кніжка, па меркаванні Бяляцкага, таксама павінна быць адказам на шалёную дыскрэдытацыю праваабаронцаў, разгорнутую праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Хто на самой справе гэтыя людзі па сваіх перакананнях, каштоўнасцях і прафесіі, які іх шлях да праваабароны і якой яны бачаць будучыню краіны гэта таксама можна пабачыць з партрэтных інтэрв'ю, сабраных у гэтым выданні.

**Праваабарончы цэнтр "Вясна"**

# Валянцін Стэфановіч: «Амністыя для Алеся Бяляцкага пад пагрозай»



*Пад пагрозай таксама магчымасьць датэрміновага вызваленьня Алеся Бяляцкага паводле ліпеньскай амністыі.*

*Вязень Бабруйскай калёніі Алесь Бяляцкі даслаў ліст свайму калег і сябру праваабаронцу Валянціну Стэфановічу.*

**Бяляцкі паведаміў пра праблемы, якія ў яго ўзьніклі ў сувязі з рашэньнем суду спагнаць зь яго яшчэ 140 мільёнаў рублёў пені ў дадатак да 700 мільёнаў, якія ён ўжо сплаціў.**

Стэфановіч: «Гэта новая сытуацыя, якая ўскладняе становішча Алеся. У лісьце ён мне напісаў, што паколькі зноўку ёсьць да яго матэрыяльныя патрабаваньні, то „атаварка“ ў турэмнай краме будзе ўжо не на 5 базавых велічынь, а на адну. А галоўнае узьнікае пытаньне з магчымай амністыяй. Вельмі часта ў тэксьце закону аб амністыі ўказваюць, што яна не распаўсюджваецца на тых вязьняў, да якіх ёсьць матэрыяльныя патрабаваньні, якія не пагашаныя. Як мы зараз ведаем, да 3 ліпяня будзе прымеркаваная амністыя, і Алесь Бяляцкі, калі б у яго не было такіх матэрыяльных патрабаваньняў, мог бы разьлічваць трапіць пад амністыю. Але зараз узьнікае праблема».

Днямі Алесь Бяляцкі накіраваў дадатак да нагляднай скаргі ў Менскі абласны суд, якую ён дасылаў на пачатку красавіка. Дадатак тычыцца рашэньня Першамайскага суду Менску спагнаць з праваабаронцы яшчэ 140 мільёнаў рублёў пені на тую суму грошай у пакрыцьцё стратаў, якую ён ўжо выплаціў. У 2011 годзе падаткавікі вырашылі спагнаць з Бяляцкага 350 мільёнаў, потым гэтыя выплаты былі праіндэксаваныя да 700 мільёнаў, а цяпер суд пастанавіў спагнаць з праваабаронцы яшчэ 140 мільёнаў. Валянцін Стэфановіч лічыць гэтыя дзеяньні незаконнымі:

«Пеня магла быць, але індэксацыю сумы суд зрабіў абсалютна адвольна і незаконна, паколькі Падатковы кодэкс прадугледжвае толькі адзін варыянт мадэрнізацыі запазычанасьці гэта пеня, больш ніякіх індэксацый быць ня можа».

Калі адбудзецца разгляд нагляднай скаргі яшчэ невядома. Касацыйная скарга праваабаронцы на прысуд не была задаволеная.

У лісьце Валянціну Стэфановічу Алесь Бяляцкі падрабязна апісаў свой працоўны дзень у калёніі. Аказваецца, ён вельмі напружаны.

Стэфановіч: «Шмат часу ў яго займае праца. Фактычна вольнага часу ў яго не застаецца. Працуе на ўпакоўцы швэйных вырабаў, пальчатак ды рукавіцаў. Потым рознае самаабслугоўваньне, трэба прыбіраць і гэтак далей. Тры праверкі за дзень. Піша, што гэта забірае амаль увесь вольны час, ня шмат часу на тое, каб чытаць кнігі ці пісаць лісты. Тэлевізар ён фактычна таксама не глядзіць. Увечары засынае вельмі хутка, бо за дзень моцна стамляецца. А ў 5:30 раніцы зноўку пад'ём і зноўку на працу і гэтак далей».

Не гледзячы на занятасьць, Алесь Бяляцкі ўсё ж знаходзіць час ліставацца зь сябрамі і сваякамі.

Жонка палітвязьня Натальля Пінчук: «У Алеся асаблівых навінаў няма. Прыйшлі сёньня ад яго лісты, але гэта лісты сыну. І мне даслаў паштоўку».

Праваабаронца быў асуджаны на 4,5 году зьняволеньня паводле абвінавачаньня ва ўтойваньні вялікіх прыбыткаў. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Алеся Бяляцкага палітвязьнем.

**Алег Грузьдзіловіч**

## Форум у Вільні падтрымаў кандыдатуру Бяляцкага на Нобеля

Удзельнікі Парламенцкага форума за дэмакратыю, які адбыўся ў Вільні, падтрымалі ідэю вылучэння кіраўніка праваабарончага цэнтра "Вясна" Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію.

У форуме ўдзельнічалі дэлегацыі з Літвы, Украіны, Грузіі, Малдовы і Польшчы. Дэпутат ад польскага Сейма Анджэй Галіцкі падчас форума ўзняў пытанне вылучэння зняволенага кіраўніка праваабарончага цэнтра "Вясна" Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міра, пра што паведаміў прадстаўнік дэлегацыі ад Беларусі, лідар АГП Анатоль Лябедзька.

- Гэта сведчыць пра наяўнасць моцы і палітычнай волі ў вылучэнні Бяляцкага ў Нобелеўскія лаўрэаты. Пачыналася як ідэя, як прапанова, сёння яна ўжо мае трывалі падмурак. За гэта выступілі і многія парламенты, і міжнародныя структуры. Так што я лічу, што тут ёсць пэўная перспектыва, каб у Беларусі з'явіўся свой першы Нобель.

Беларусь надалей застаецца адным з прыярытэтаў у замежнай палітыцы як Еўропы, так і ЗША, адзначылі ўдзельнікі парламенцкага форума ў Вільні .



# “Вясна” піша гісторыю найноўшага часу




*Прэзэнтацыяй адразу двух выданьняў: фотаальбома “За права на выбар: партрэты асуджаных. Плошча-2010” і кнігі інтэрвію “Наша Вясна. Гісторыя ў асобах” праваабаронцы адзначылі 16-годдзе стварэньня праваабарончага цэнтру “Вясна”.*

На прэзентацыі, якая прайшла 2 траўня на сядзібе Партыі БНФ, прысутнічалі шматлікія журналісты, праваабаронцы і грамадскія дзеячы, былыя палітвязні, іх сваякі і родныя.

Намесьнік старшыні праваабарончага цэнтру «Вясна» **Валянцін Стэфановіч** распавёў, што, падзеі, звязаныя з Плошчай-2010 не скончыліся і зараз. Ацэнка тых падзеяў не зьмянілася дагэтуль і праваабаронцы па-ранейшаму лічаць, што масавых беспарадкаў не было, і што ўсе прысуды за Плошчу зьяўляюцца палітычна матываванымі.

“Тыя людзі, якія былі асуджаныя за падзеі 19 снежня, дагэтуль застаюцца ў турмах: гэта і кандыдат у прэзідэнты на тых выбарах Мікола Статкевіч, гэта і Павел Севярынец, які дагэтуль адбывае пакараньне. Гэта таксама і маладафронтаўцы Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў, справы якіх мы таксама непасрэдна звязваем з 19-м сьнежня, бо хлопцы былі затрыманыя прэвентыўна і па абсалютна сфальсіфікаванай крымінальнай справе апынуліся за кратамі. Мы па-ранейшаму патрабуем вызваленьня палітвязьняў неадкладнага і безумоўнага», - заявіў Валянцін Стэфановіч напачатку мерапрыемства.

Прадмову для гэтага выданьня складаў кандыдат гістарычных навук **Аляксей Кароль.**

“Гэтым выданьнем “Вясна” пацвердзіла свой вобраз, свой імідж як арганізацыі, якая актыўна змагаецца за правы чалавека ў Беларусі, якая, нягледзячы на брутальны пераслед, не скарылася і працягвае сваю справу. І гэтым выданьнем “Вясна” зрабіла вельмі важкі ўнёсак у дакументальную базу для будучых даследаванняў дэмакратычнага руху ў Беларусі найноўшага часу. У далейшым выданьні “Вясны” стануць нагодай для напісаньня навуковых дысертацый”, перакананы гісторык і журналіст Аляксей Кароль

Сябра рады праваабарончага цэнтру “Вясна” **Таццяна Рэвяка** прыклала шмат намаганьняў для стварэньня кнігі “Наша Вясна. Гісторыя ў асобах”. Гэтае выданне ўяўляе сабою зборнік васемнаццаці інтэрв'ю з вядомымі сябрамі і актывістамі арганізацыі, у тым ліку і рэгіянальнымі. Выданьне гэтай кнігі планавалася на 2011 год, да 15-годдзя праваабарончага цэнтра, аднак тыя падзеі, якія пацягнуліся за “Плошчай-2010”, суды над яе удзельнікамі, а таксама арышт кіраўніка арганізацыі Алеся Бяляцкага, які, дарэчы быў ініцыятарам стварэньня гэтай кнігі, паўплывалі на тэрміны падрыхтоўкі выданьня.

**Праваабарончы цэнтр "Вясна"**

## Бяляцкі ўпершыню пазваніў з калоніі

*Беларускі праваабаронца, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі па правах чалавека Алесь Бяляцкі ў папраўчай калоніі № 2 у Бабруйску працуе пакавальнікам швейных вырабаў.*

*Пра гэта паведаміла яго жонка Наталля Пінчук.*

*Паводле яе слоў, увечары 27 красавіка Бяляцкі патэлефанаваў ёй з калоніі. "Гэта быў першы тэлефонны званок з калоніі. Я пачула, што ён у нос кажа, спытала пра здароўе. На гэта ён сказаў, што адчувае сябе нармальна, але ёсць рэшткавыя з'явы прастуды, якую перанёс у калоніі.*

*Але ў асноўным усё нармальна», - сказала Пінчук.*

*Размова доўжыўся каля пяці хвілін. У гутарцы Бяляцкі пацвердзіў, што будзе абскарджваць новы пазоў да яго з боку падатковай інспекцыі.*

*"Голас быў бадзёры, ён трымаецца", - адзначыла Пінчук.*

*Нагадаем, у лістападзе мінулага года суд Першамайскага раёна Мінска прызнаў Алеся Бяляцкага вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры і прысудзіў яго да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Падставай для крымінальнага пераследу праваабаронцы стала наяўнасць у яго замежных рахункаў у банках Літвы і Польшчы. Гэтыя грошы выкарыстоўваліся для праваабарончай дзейнасці. Адкрыць рахункі ў Беларусі не ўяўлялася магчымым, так як цэнтр "Вясна" працуе нелегальна - улады неаднаразова адмаўлялі ў афіцыйнай рэгістрацыі арганізацыі.*

*Нагадаем, паводле прысуду ад 24 лістапада 2011 года, Алесь Бяляцкі быў асуджаны на чатыры з паловай гады калоніі ўзмоцненага рэжыму з спагнаннем кампенсацыі нібыта нанесенай «шкоды дзяржаве".*

**www.nn.by**

# Савет пры прэзідэнце па правах чалавека просіць Мядзведзева спрыяць вызваленню праваабаронцы Алеся Бяляцкага



**28 красавіка на сустрэчы з прэзідэнтам РФ Дзмітрыем Мядзведзевым у падмаскоўнай рэзідэнцыі Горкі сябры Савета па правах чалавека перадалі яму ліст з просьбай выкарыстоўваць увесь свой уплыў, каб спрыяць вызваленню ў Беларусі праваабаронцы Алеся Бяляцкага.**

“Прэзідэнту Расійскай Федэрацыі Д.А. Мядзведзеву

Паважаны Дзмітрый Анатольевіч! Мы просім Вас выкарыстоўваць увесь Ваш уплыў для таго, каб спрыяць вызваленню са зняволення ў Рэспубліцы Беларусь нашага калегі, праваабаронцы Аляксандра (Алеся) Віктаравіча Бяляцкага. Алесь Бяляцкі - адзін з самых вядомых беларускіх праваабаронцаў, старшыня праваабарончага цэнтра "Вясна", віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека. Мы ўсе добра ведаем і вельмі высока ацэньваем яго праваабарончую дзейнасць, якой ён займаўся на працягу апошніх дваццаці пяці гадоў, многія з расійскіх праваабарончых арганізацый супрацоўнічалі з узначаленым ім цэнтрам "Вясна". Алесь Бяляцкі - абсалютна бескарыслівы і сумленны чалавек, цалкам адданы абароне правоў чалавека як у сябе на радзіме, так і ва ўсім свеце. Дзякуючы дзейнасці Алеся Бяляцкага, шмат яго суайчыннікаў змаглі атрымаць прававую дапамогу, дамагчыся аднаўлення парушаных правоў. За сваю праваабарончую працу Алесь Бяляцкі быў уганараваны шэрагам прэмій, у тым ліку шведскай прэміяй імя Пера Ангера (2006 г.), прэміяй Свабоды імя Андрэя Сахарава Нарвежскага Хельсінскага камітэта (2006 г.), дыпломам "За мужнасць і барацьбу за свабоду" (на ўзнагароджанні 2 кастрычніка 2011 года на V Міжнародным фестывалі праваабарончых фільмаў у Бішкеку Алесь Бяляцкі не прысутнічаў, паколькі на той час ужо знаходзіўся пад арыштам).

3 кастрычніка 2011 г. Алесь Бяляцкі быў вылучаны на Нобелеўскую прэмію міру. На момант вылучэння яго кандыдатуры чатыры лаўрэаты прэміі выказалі сваю згоду з гэтым вылучэннем. Кандыдатуру Бяляцкага падтрымалі парламентарыі 27 краін - сябраў Савета Еўропы. У красавіку 2012 г. Нобелеўскі камітэт у Осла зноў зарэгістраваў Алеся Бяляцкага афіцыйным кандыдатам на атрыманне прэміі міру.

Наш сябар і калега Алесь Бяляцкі быў арыштаваны 4 жніўня 2011 г. па надуманай прычыне ўхілення ад падаткаў. 23 лістапада 2011 г. суд Першамайскага раёна Мінска прызнаў Алеся Бяляцкага вінаватым ва ўхіленні ад выплаты падаткаў і прысудзіў да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці (частка 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса РБ).

Цалкам відавочна, што Бяляцкі быў пакараны за свой удзел у справе абароны правоў чалавека ў Беларусі. Усе сродкі, у нявыплаце падаткаў з якіх ён абвінавачаны, прызначаліся выключна на праваабарончую дзейнасць, гэтыя сродкі не з'яўляліся прыбыткам Бяляцкага

Некаторыя з сябраў Савета пры Прэзідэнце Расіі па развіцці грамадзянскай супольнасці і правах чалавека прысутнічалі ў якасці назіральнікаў у Мінску на працэсе па справе Алеся Бяляцкага. Яны адзначалі, што працэс ішоў з відавочна абвінаваўчым ухілам, усе довады абароны суд проста не прымаў да ўвагі, пазіцыя абароны не была наогул ніяк адлюстравана ў прысудзе, які відавочным чынам знаходзіцца ў супярэчнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. З шэрагу дакументаў, агучаных падчас працэсу, стала відавочна, што органы пракуратуры, узбуджаючы крымінальную справу супраць Алеся Бяляцкага, выконвалі прамы палітычны заказ - спыніць працу праваабарончага цэнтра "Вясна”.

Алесь Бяляцкі прызнаны арганізацыяй Amnesty International вязнем сумлення. Усе мы і нашы арганізацыі падзяляем гэтую ацэнку.

Мы просім Вас, Дзмітрый Анатольевіч, распачаць магчымыя крокі для таго, каб спрыяць вызваленню Алеся Бяляцкага.

<u>Праваабарончы цэнтр "Вясна"</u>

## **Леанід Судаленка:** нашай краіне не сысці ад пытанняў, якія ўзнімаюцца праваабаронцамі

*У Чарнігаве адбыўся семінар «Стратэгічныя справы ў практыцы праваабарончых арганізацый. Імплементацыя дэ-факта нормаў міжнароднага права», арганізаваны па ініцыятыве Гомельскага Цэнтра стратэгічнай цяжбы.*

На працягу 3-х дзён беларускія праваабаронцы сумесна са сваімі калегамі з Украіны вывучалі асаблівасці стратэгічных цяжбаў, знаёміліся з вопытам стратэгічнай абароны Харкаўскай праваабарончай групы. Прадстаўнікі Гомельскага Цэнтра стратэгічнай цяжбы Леанід Судаленка і Васіль Палякоў лічаць неацэнным вопыт сваіх калег з іншых краін у пытаннях вядзення стратэгічных цяжбаў, накіраваных як на змену існуючых прабелаў і недахопаў у нацыянальным заканадаўстве, так і практыкі яго прымянення. Яны таксама ўпэўненыя, што не за гарамі той час, калі Беларусь ратыфікуе Еўрапейскую Канвенцыю аб абароне правоў чалавека, пасля чаго беларусы змогуць абараняць свае правы і ў Еўрапейскім Судзе па правах чалавека.

**Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.**
**Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.**